20 ЖНІЎНЯ 1999г. ПЯТНІЦА

# НАВІНЫ

№94 (625) КОШТ СВАБОДНЫ




Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: «Я вялікі прыхільнік перамоваў, але маленькі аптыміст іхніх вынікаў»

## Наказ рабу Божаму Лукашэнку

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

«Дапамажыце атрымаць заробак!» — такую нетрадыцыйную просьбу атрымалі днямі ў канцылярыі Патрыяршага экзарха Беларусі Філарэта. З крыкам адчаю да мітрапаліта звярнуліся будаўнікі з упраўлення №56 дванаццатага трэста Магілёва.

«Мы, рабы Божыя, просім Вас пахадайнічаць перад рабом Божым Аляксандрам Лукашэнкам і даць яму наказ, каб замест «Дажынак», лядовых палацаў, фестываляў ды іншых сатанінскіх забаваў ён выдаў бы нам заробак за чэрвень на прапітанне», — пішуць магіляўчане Шулікаў, Бахмецьеў, Мельнікаў, Бондараў ды іншыя. Яны настаўляюць кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы, што без ежы чалавек можа пражыць толькі месяц, а яны ўсё лета не атрымоўваюць заробак.

Аўтарам ліста пакуль невядома, як адрэзагаваў уладыка Філарэт на іх просьбу. Яны разумеюць, што ён не з'яўляецца дзяржаўнай асобай, не курыруе будаўніцтва і не размяркоўвае бюджэтныя сродкі, якіх усім чамусьці не хапае, аднак будаўнікі ўжо выкарысталі ўсе традыцыйныя магчымасці паўздзейнічаць на ўладу. Яны звярталіся да старшыні Магілёўскага гарвыканкама, да кіраўніка 12-га будаўнічага трэста, да свайго непасрэднага кіраўніка — дырэктара БУ-56. Адказ быў паўсюль адзін і той жа — грошай няма. А на пытанне, чаму няма, начальнікі спасылаліся на фестывалі, дажынкі ды лядовыя палацы, на якія ідуць усе грошы з бюджэту. Таму і вырашылі праваслаўныя ўзняць свой голас не толькі супраць затрымак з выплатай заробкаў, але і супраць «сатанінскіх», як яны лічаць, мерапрыемстваў. Вось толькі трэба заўважыць, што ініцыятарам гэтых мерапрыемстваў з'яўляецца зусім не Філарэт, а «раб Божы Лукашэнка». ■

**РЭХА**

## А премьера все равно поменяют

**Отдел информации**

Несколько номеров назад газета НАВІНЫ сообщила о том, что, по информации нашего источника, в администрации президента очень скоро в судьбе премьера Сергея Линга произойдут перемены. Его место главы правительства займет нынешний глава президентской администрации Михаил Мясникович.

На следующий день пресс-секретарь премьера Иван Знаткевич опроверг напечатанную в НАВІНАХ информацию. «Я был удивлен этой заметкой и считаю её безосновательной, — заявил он в разговоре с корреспондентом информационного агентства БелаПАН. – Конечно, правительство не может быть неприкосновенным, и в его работе есть недостатки, но про отставку речь не идет».

Отрадна попытка пресс-секретаря оградить своего шефа от лишних неприятностей. Однако, по информации НАВІНАЎ, «неприятности» все-таки не избежны, так как указы о снятии Линга и назначении Мясниковича уже находятся на столе у главы государства. На этот раз мы позволим себе указать приблизительную дату отставки: это 28 августа. Более того, нам стало известно и имя кандидата на пост главы администрации – в настоящее время идут переговоры с бывшим соратником президента Леонидом Синицыным. До сентября ждать осталось недолго. ■

# Палітычны матч

## На вачах у Аляксандра Лукашэнкі рускія «аб'ядноўваліся» з беларусамі ў жорсткіх бойках падчас футбольнага матча. Арыштавалі 62 расіянаў і 1 беларуса



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Беларускія балельшчыкі падтрымлівоюць сваю каманду нацыянальнымі сцягамі

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

**Міжнародны таварыскі матч паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Расіі на мінскім стадыёне «Дынама» суправаджаўся сур'ёзнымі патасоўкамі паміж балельшчыкамі абедзвюх камандаў, а таксама са стражамі парадку. Матч скончыўся з лікам 2:0 на карысць расіянаў.**

У Мінск на беларуска-расійскую сустрэчу на футбольным полі прыехалі каля 300 заўзятараў з Расіі. Яшчэ перад матчам разагрэтыя спіртнымі напоямі расіяне, блукаючы па мінскіх вуліцах, пакідалі свае аўтографы на сценах дамоў і ўступалі ў сутычкі з мінчанамі. На гульню яны з'явіліся арганізавана і занялі 13-ы сектар стадыёна, якраз па суседству з беларускімі апазіцыянерамі.

У пачатку другога тайма расіяне забілі другі мяч у беларускія вароты, і ў расійскіх хуліганаў ускружыліся галовы. З гвалтам госці з Расіі рынуліся на суседні беларускі сектар з бел-чырвона-белымі сцягамі і развязалі бойку. Патасоўка цягнулася каля пяці хвілінаў. Расійскія фанаты атрымалі адпор. Хвілінаў праз дзесяць атака расіянаў на беларускую трыбуну паўтарылася, і стала верагоднай цісканіна, жанчыны і дзеці пабеглі ўніз, на першы рад. Беларускія балельшчыкі сталі адбіваць ад нахабных расійскіх фанатаў. Толькі пасля гэтага з'явіўся ўзмоцнены спецназ і амон у камуфляжы, які атачыў расіяцаў шчыльным кальцом.



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Расійскія фанаты. Некаторыя з іх ужо ў турме

На словах прадстаўнікоў органаў правапарадку, падчас матча расіяне выкрыквалі непрыстойныя словы, свісталі, кідалі бутэлькі і петарды на футбольнае поле, распівалі спіртное. Яшчэ да пачатку матча яны спалі п'яныя на лаўках на стадыёне «Дынама». Калі міліцыянт падчас гульні зрабіў заўвагу аднаму з расійскіх заўзятараў, 21-гадоваму студэнту, той аказаў супраціўленне, пачаў прымаць баявыя стойкі і ўрэшце ўдарыў міліцыянта кулаком па твары і выбіў таму зуб. Цяпер у адносінах да гэтага фаната з Расіі ўзбуджаная крымінальная справа. Яшчэ адна група з дзесяці расійскіх балельшчыкаў пачала збіваць трох беларускіх міліцыянтаў, якія зрабілі заўвагу расіяніну, што кідаў петарды на футбольнае поле.

Балельшчыкі паламалі некалькі крэслаў на стадыёне, выкрыквалі ў адрас беларусаў абразлівае — «бульбашы». Расіянаў, ачэпленых беларускімі стражамі парадку, трымалі на стадыёне на іхніх месцах да позняга вечара, а потым невялікімі групамі, пад узмоцненай аховай вывозілі на вакзал да цягніка. Менавіта тут іх таксама чакалі беларускія заўзятары, якія рваліся ў бойку з расійскімі «сябрамі». ▶

Заканчэнне на стар.2

**ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ**

### Адзіная валюта для Азіі

Днямі нацыянальны эканамічны савет Малайзіі выйшаў на Міжнародны валютны фонд з прапановай: ці нельга ўвесці на тэрыторыі 10 краінаў – членаў Асацыяцыі краінаў Паўднёва-Усходняй Азіі (АСЕАН) – адзіную валюту. Пры гэтым краіны АСЕАН нават не прэтэндуюць на ўтварэнне нейкай новай грашовай адзінкі па прыкладзе еўра – яны гатовыя пагадзіцца на ўжо існуючую, а менавіта – на сінгапурскі долар. Справа ў тым, што сінгапурскі долар – цяпер найбольш устойлівая валюта ў рэгіёне.

### Ахвяры федэралаў

Вось ужо 40 байцоў федэральных расійскіх войскаў былі забітыя падчас дагестанскай кампаніі па «выгнанні ісламістаў з расійскай тэрыторыі». Гэтую афіцыйную лічбу паведаміў учора намеснік міністра ўнутраных справаў Расіі Ігар Зубаў. 160 чалавек было паранена. Часцей за ўсё гінулі прадстаўнікі дагестанскай міліцыі. Праўда, некаторыя з іх былі забітыя сваімі ж – лётчык прымаў дагестанскіх саюзнікаў за ісламістаў і цэліў на гашэтку.

### Інтэграцыя рухаецца з Поўначы

У Новасібірску распачаўся збор подпісаў за правядзенне рэферэндуму па аб'яднанні Беларусі і Расіі. Гэтую ініцыятыву прапанавалі губернатары расійскіх рэгіёнаў. Як яхідна заўважаюць расійскія паліталагі, цяпер Сібір будзе прырастаць Беларуссю.

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



**НАДВОР'Е**




**20 жніўня** па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночна-заходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы, вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/сек. **21—22 жніўня** чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, вецер заходні, паўночна-заходні, 5—11 м/сек., удзень — парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра: 21 жніўня ўначы — 7—12, удзень — 17—22, 22 жніўня – уначы — 5—10, удзень — 14—19.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**465 000**

**ПАЛІТЫЧНАЯ АФІША**

## ВНИМАНИЕ!

***В пикетах участвуют известные белорусские политики***

**23 августа** – станция метро «Пушкинская». Зам. председателя ОГП ***Василий Шлындиков***.

**25 августа** – пр. Скорины, 157, станция метро «Восток». Председатель ОГП ***Станислав Богданкевич***.

**27 августа** – ДК тракторного завода. Депутат Верховного Совета ***Валерий Щукин***.

**30 августа** – ДК железнодорожников. Председатель БСДП (НГ) ***Николай Статкевич*** (*от ред.*: в этот день Александр Лукашенко отмечает свой день рождения).

Все пикеты проходят с **16.00** до **18.00**

ПЯТНІЦА



З МІКАЛАЕМ ХАЛЕЗІНЫМ

## Кризисология

Вот и прошел год с того дня, который вошел в историю под названием «Кризис 17 августа». Смешно. То, что произошло 17 августа, называется совсем другим словом — расплата.

Сидел Голодный человек в однокомнатной «хрущевке» с облезлыми стенами и закопченым потолком, курил «Приму» и смотрел черно-белый телевизор «Зорька». Долго сидел. Курил и думал, думал и курил. Как раз в тот момент, когда последняя сигарета погасла в консервной банке, приспособленной под пепельницу, ему в голову пришла мысль: «а не пожить ли мне по-человечески?».

Одел человек костюм, в котором ходил еще на выпускной вечер в школу, и пошел в банк. Главный банкир задал только один вопрос: «Тебе зачем деньги, голодранец?» Подготовленный ответ — «буду строить огромные корабли», — удовлетворил банкира. Кредит в самой твердой в мире валюте переместился из банковского сейфа в карман Голодного человека.

Для начала Голодный человек скупил все квартиры на своей лестничной площадке и, разбив между ними стены, сделал евроремонт в новом десятикомнатном жилище. Потом обставился новой мебелью и купил хороший телевизор. Денег оставалось навалом, поэтому пришлось купить себе десяток костюмов, хорошей еды и сигарет.

Сидел Сытый человек в десятикомнатной квартире с евроремонтом, курил *Marlboro* и смотрел телевизор *Sony* с метровой диагональю. В дверь постучали. Сытый человек открыл — на пороге стояли люди в штатском. Один из них спросил: «А где большие корабли, которые ты строишь за наши деньги?» Сытый человек проводил гостей в комнату и сказал: «Посмотрите, как я хорошо живу. На кой хрен мне корабли». Незваные гости набили морду Сытому человеку, забрали все вещи, распродали жилплощадь... Они были совершенно правы — если ты говоришь, что будешь строить корабли, то строй корабли; если «вешаешь лапшу на уши», то будь всегда готов к тому, что твои уши когда-нибудь кто-нибудь отрежет.

...Сидел Голодный человек в однокомнатной «хрущевке» с облезлыми стенами и закопченым потолком, курил «Приму» и смотрел черно-белый телевизор «Зорька». Долго сидел. Курил и думал, думал и курил. Как раз в тот момент, когда последняя сигарета погасла в консервной банке, приспособленной под пепельницу, ему в голову пришла мысль: «Вот и наступил кризис».

**КАТАСТРОФА**

## Сярод пацярпелых беларусаў пакуль няма

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

Пакуль з'явіліся безвынікоўвымі ўсе спробы беларускага пасольства ў Анкары даведацца, ці ёсць сярод пацярпелых падчас разбуральнага землятрусу мінулай ноччу ў Турцыі грамадзяне Беларусі, паведаміў па тэлефоне пасол Беларусі ў Турцыі Мікалай Ляпёшка. Паводле яго словаў, збор інфармацыі абцяжараны тым, што ў многіх гарадах няма электрычнасці і парушана тэлефонная сувязь. Тым не менш, дыпламат выказаў надзею, што ніхто з беларусаў у выніку землятрусу не пацярпеў.

Як паведаміў спадар Ляпёшка, эпіцэнтр землятрусу прыпаў на прамысловы горад Ізміт (80 км ад Стамбула). Турэцкія ж курорты, дзе адпачываюць грамадзяне Беларусі і Расіі, — Анталія, Кушадасы, Мармарыс — размешчаныя ў 600-700 км ад эпіцэнтра. Акрамя Ізміту, у той ці іншай ступені пацярпелі таксама гарады Стамбул, Куджаелі, Ялова, Бурса і іншыя. Колькасць ахвяраў ужо перавысіла 25 тысяч чалавек, сярод якіх каля 4 тысяч загінуўшых. Болей за 30 тысяч чалавек знаходзяцца пад разбуранымі будынкамі. ■

**ФОТАФАКТ**



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Канализационный люк на территории тюрьмы по улице Володарского. Побег по трубам не удастся

# Палітычны матч

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Міліцыянты мелі прэтэнзіі і да беларускіх балельшчыкаў, аднак зусім іншага парадку: ім не спадабаліся бела-чырвона-белыя сцягі, з якімі прыйшлі на матч сябры Маладога Фронту. Беларусы скандзіравалі: «Жыве Беларусь!», «Чамадан, вакзал, Расія!», што найперш было адрасаванае прэзідэнту Лукашэнку, які таксама прысутнічаў на матчы. З ім у ложы сядзеў таксама міністр замежных справаў Урал Латыпаў, намеснік старшыні ніжняй палаты Уладзімір Канаплёў і мэр Мінска Уладзімір Ярмошын, якія, відаць, чакалі інтэграцыйнага працэсу на стадыёне. У шэрагах беларускіх балельшчыкаў на трыбуне быў намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка.

Нашыя футбалісты прайгравалі. Каб падтрымаць сябе, беларускія балельшчыкі разгарнулі вялізны бел-чырвона-белы сцяг, спявалі патрыятычныя песні. На апошніх хвілінах матча спецназ, якім кіравалі супрацоўнікі службы аховы прэзідэнта Лукашэнкі, атачыў кальцом апазіцыйную моладзь, распачаў вобыск і канфіскаваў крамольныя нацыянальныя сцягі. Не ўдалося ім справіцца толькі з дэпутатам Вярхоўнага Савета Валерыем Шчукіным, які не аддаў бел-чырвона-белы сцяг і вырваўся з атачэння спецназа. Аднаго з сябраў Маладога Фронту міліцыя затрымала са сцягам яшчэ перад матчам пры ўваходзе на стадыён і пратрымала яго ў апорным пункце да позняга вечара. На гэтых балельшчыкаў пратаколы аднак не складаліся.

Па звестках пракуратуры Ленінскага раёна Мінска, пасля сяброўскага матча затрымлі 62 расіянаў, супраць чатырох з іх узбуджаныя крымінальныя справы, на 58 складзеныя адміністратыўныя пратаколы. Сярод затрыманых 19 непаўналетніх з Расіі, лёс якіх яшчэ вырашаецца. Арыштавалі таксама аднаго беларуса, пра якога пракуратура не дала ніякай інфармацыі.

***P.S.** Сустрэча нацыянальных зборных Беларусі і Расіі мела трэніровачны характар. Нашыя футбалісты вырашылі праверыць сваю гатоўнасць перад адборачнымі гульнямі чэмпіяната Еўропы. Нагадаем, што 4 верасня нашая зборная гуляе з нацыянальнай зборнай Уэльса.* ■

**ГРАМАДСТВА**

# Цана на жыллё ў сталіцы падае

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН**

**Беларуская гільдыя спецыялістаў па нерухомасці паведаміла пры выніку штоквартальнага даследавання кватэрнага рынку Мінска, якое праводзіцца Беларускім таварыствам ацэншчыкаў.**

Спецыялісты канстатуюць, што падзенне цэнаў назіралася на працягу ўсяго першага паўгоддзя. Цана квадратнага метра агульнай плошчы знізілася ў другім квартале на 6,8 працэнта ў параўнанні з першым — з 429,1 да 400,1 умоўных адзінак. Грунтуючыся на выніках даследавання, спецыялісты лічаць, што далейшае падзенне цэнаў непазбежнае, яно будзе працягвацца на працягу некалькіх месяцаў. У якасці асноўнай прычыны падзення цэнаў спецыялісты называюць зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва. Сённяшні рынак з залішняй прапановай дае магчымасць ужо не прадаўцам, а пакупнікам дыктаваць цэны на кватэры, прымушаючы першых саступаць на 10-30 працэнтаў. Аднак нават гэтыя кардынальныя крокі, на думку спецыялістаў, не здольныя падняць рынак нерухомасці да ўзроўню павышэння або хаця б некаторай стабілізацыі цэнаў, калі не будзе ліквідаваная першапрычына — падзенне рэальных даходаў насельніцтва. Падзенне цэнаў на кватэры ў Мінску, такім чынам, заканамерны факт, які адлюстроўвае агульныя тэндэнцыі эканамічнага развіцця дзяржавы, адзначаецца ў даследаванні Беларускага таварыства ацэншчыкаў. ■

**НАВІНКА**

# Молодежь переходит в атаку

**Никита ЯРИН**

**Появившиеся в Минске на прошлой неделе значки с изображением черного оптического прицела и красной надписью на белорусском (русском) и английском языках «Я снайпер» обещают стать главным хитом молодежной моды осенью нынешнего года.**




Появившийся значок отдаленно напоминает символ *Target* (мишень), который носили на груди сербы во время натовских бомбардировок Югославии. Отличие его в том, что молодые белорусы, судя по всему, не собираются становиться мишенями той политики, которую проводит нынешняя власть.

В основу нового молодежного символа положено расхожее выражение «Беларусь спасет снайпер». Скорее всего, молодое поколение решило разделить ответственность за спасение родной страны. Теперь остается лишь порекомендовать представителям власти одолжить у славянского брата Слободана Милошевича значки с изображением мишени и повесить на лацканы пиджаков. ■

**ЦЫТАТА НУМАРА**

**Работали отменно, а оказалось — должны остались. Сама постановка вопроса виновата — работать хорошо, оказывается, не выгодно...**

*Илья КАЦ*

*«Советская Белоруссия», 18 августа 1999 года*

## Брацкая «нелюбоў»

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

Да гэтага часу не змог уладкавацца на працу актывіст прэзідэнцкай кампаніі жыхар Клічава Міхаіл Долбік. Раней ён працаваў следчым, а апошнім часам супрацоўнікам адной з камерцыйных фірмаў. НАВІНЫ ўжо паведамлялі, што сп. Долбік быў затрыманы па абвінавачванні ў лаянках на міліцыю, а потым пакараны 15 суткамі арышту. Адразу пасля выхаду на волю ў траўні ён быў вымушаны пакінуць працу, а зараз яго не бяруць не толькі ў дзяржаўных, але і недзяржаўных структурах. За гэтымі адмовамі стаіць подпіс роднага брата Івана Ціцянкова, які ўзначальвае клічаўскую раённую вертыкаль. Зараз Міхаіл Долбік быў вымушаны пераехаць да маці ў Мінскую вобласць, дзе часова жыве, шукае сабе працу. ■

## Генерал Казлоўскі абараняе пікетоўшчыкаў

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Аб'яднаныя дэмакраты абвінавачваюць мінскія гарадскія ўлады ў стварэнні штучных перашкодаў у палітычнай дзейнасці. У прыватнасці, АГП указвае на тое, што гарвыканкам без усялякіх тлумачэнняў мяняе месцы пікетаў, заяўленых партыяй. Прыкладам, пікет, запланаваны на Маскоўскай вуліцы, быў перанесены на Гарадскі Вал, акцыю на бульвары Трактарабудаўнікоў чакае той жа лёс — гарвыканкам даў дазвол на правядзенне пікета толькі побач з Палацам культуры МТЗ.

«Навошта пікетоўшчыкам стаяць там, дзе іх мала хто ўбачыць? Гэта нонсэнс. Уражанне такое, што гарвыканкам у жніўні вырашыў пачаць барацьбу з пікетоўшчыкамі шляхам дыскрэдытацыі гэтай формы палітычнай барацьбы», — лічыць кіраўнік мінскай гарадской арганізацыі АГП экс-міністр абароны Павел Казлоўскі.

Учора дэлегацыя АГП на чале з Казлоўскім паспрабавала вырашыць праблему на сустрэчы з намеснікам гарадского мэра Віктарам Чыкіным, але чыноўнік-камуніст на прызначаную сустрэчу не з'явіўся. Ягоны памочнік паабяцаў разабрацца і «даць адказ» на працягу некалькіх дзён. «У верасні мы плануем правесці дзесяткі пікетаў і будзем патрабаваць ад уладаў дазволіць іх правядзенне згодна з нашымі заяўкамі», — паведаміў Павел Казлоўскі. ■

**ПРЭСА**

## Газеты не будуць закрываць?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Ніводная беларуская грамадска-палітычная газета не мае дастаткова падставаў, каб быць закрытай. Пра гэта ўчора на прэс-канферэнцыі паведаміў старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны.

Па словах М.Падгайнага, 11 ці 12 газетаў маюць афіцыйныя папярэджанні па артыкулах 5 (заклік да захопу ўлады, распальванне нацыянальнай, сацыяльнай і расавай розні і г.д) і 40 (распаўсюджванне недакладнай інфармацыі) Закона аб друку. (Нагадаем, што пры наяўнасці двух такіх папярэджанняў на працягу года выданне можа быць закрытае.) Тым не менш, як сцвярджае старшыня Дзяржкамдруку, два папярэджанні па гэтых артыкулах пакуль не атрымала ніводная газета.

Тут мы мусім крыху падправіць «генерала» беларускага друку. НАВІНЫ ўжо атрымалі два папярэджанні – але другое пакуль не пачало дзейнічаць: мы аспрэчваем яго ў судзе, справа яшчэ не скончылася.

Міхаіл Падгайны сцвярджае, што ён не абавязаны закрываць газеты з двума папярэджаннямі – аднак ён мае на гэта права. Мы не маем ілюзіяў наконт таго, як скончыцца наш працэс. Але нават калі старшыня Дзяржкамдруку раптам зменіць сваю пазіцыю і ягонае *права* стане ягоным *абавязкам*, наша газета будзе выходзіць і далей, няхай сабе і пад новай назвай, якую вы ўжо сёння можаце пабачыць унізе першай старонкі. ■

## В этом году уже убито 20 журналистов

**Отдел информации**

16 августа международная журналистская организация «Репортеры без границ» сообщила о том, что в 1999 г. уже было убито 20 журналистов. Это больше, чем в целом по 1998 г.

6 журналистов погибли, выполняя свой профессиональный долг в Югославии (из них трое китайских репортеров — во время бомбардировки посольства Китая в Белграде), 10 были убиты в Сьерра-Леоне, 2 — в Нигерии, один — в Колумбии и один — в Ливане. «Репортеры без границ» выражают озабоченность тем, что во время вооруженных конфликтов и в странах со сложной криминогенной обстановкой представители журналистской профессии становятся мишенями для убийц. ■

# Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: «Я вялікі прыхільнік перамоваў, але маленькі аптыміст іхніх вынікаў»

**Рыгор БУЯН**

**Выканаўца абавязкаў старшыні камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета 13-га склікання і намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі — адзін з той шасцёркі, якую апазіцыя, хутчэй за ўсё, выставіць на перамовах з цяперашняй уладай. Сёння А.Лябедзька выказаў сваю пазіцыю і стаўленне да рыхтуемых перамоваў з рэжымам.**

***— Большасць кіраўнікоў апазіцыйных партыяў выказваюць сумненні ў станоўчых выніках перамоваў з выканаўчай уладай. Ускосна гэта пацвердзіў А.Лукашэнка ў апошняй заяве. Ці варта тады ламаць коп'і?***

— Тэма перамоўнага працэсу сёння стаіць у павестцы дня, і, натуральна, што проста так зняць гэтыя пытанні ўжо немагчыма. Перамоўны працэс з'яўляецца часткай агульнаеўрапейскай палітыкі ў адносінах да Беларусі. Як гэта ні дзіўна, але на сённяшні дзень Лукашэнка больш зацікаўлены ў перамоўным працэсе ці хаця б у яго эмітацыі, чым апазіцыя. Па-першае, тыя паўтара—два мільярды долараў, якія штогод Лукашэнка атрымліваў у якасці гуманітарнай дапамогі з Расіі, у бліжэйшыя год—два ён не атрымае, таму што расійскія выбары патрабуюць велізарных сродкаў. Гэта азначае, што Лукашэнка пастаўлены ва ўмовы, калі ён вымушаны будзе шукаць дзесьці грошы. Па-другое, да гэтага накладваецца яшчэ і пагаршэнне сітуацыі ў сельскай гаспадарцы, сёлетні неўраджай, недахоп збожжа. Грошы можна знайсці, друкуючы іх, што прывядзе да гіперінфляцыі, альбо атрымаць на Захадзе. Захад можа даць гэтыя сродкі пад пэўны сцэнар развіцця падзеяў, калі беларускія ўлады выкажуць жаданне ўстанавіць на Беларусі агульначалавечыя, агульнаеўрапейскія стандарты. Іншая справа, што асабістыя якасці Лукашэнкі, які за пяць гадоў свайго прэзідэнцтва ні разу ні з кім у Беларусі перамоваў не вёў, яго псіхалагічная непадрыхтаванасць да гэтага і прыводзяць да эмацыянальных зрываў, якія мы назіраем.

***— Вы лічыце, што Лукашэнку перамоваў не пазбегнуць?***

— Я лічу сябе вялікім прыхільнікам перамоўнага працэсу, але маленькім аптымістам яго вынікаў. На самой справе ён як бы і загнаны ў кут, а з другога боку — усе мы добра ведаем беларускага прэзідэнта, у руках якога сканцэнтраваная ўся ўлада — і заканадаўчая, і выканаўчая, і судовая. І аддаць гэтыя паўнамоцтвы для яго вельмі балюча. Менавіта ў гэтым заключаецца самая вялікая праблема.

***— Калі дапусціць, што апазіцыя і ўлада ўсё ж сядуць за стол перамоваў, то што стане галоўным прадметам дыялогу: свабодныя дэмакратычныя выбары ў Нацыянальны сход ці ў Вярхоўны Савет?***

— Мы павінны вызначыцца, у які парламент будуць праходзіць выбары. Як будзе называцца парламент — Вярхоўны Савет ці Палата прадстаўнікоў — гэта другаснае пытанне. Уся жахлівасць сітуацыі ў тым, што сённяшні так званы Нацыянальны сход не з'яўляецца парламентам, ён не пабудаваны на прынцыпе падзелу ўлады. Фактычна гэта адна са структураў адміністрацыі беларускага прэзідэнта, якая не мае нават уласнай бухгалтэрыі. Важна, каб гэта быў цывілізаваны парламент, які б меў магчымасць паўплываць на сітуацыю. Любыя выбары — гэта пэўны гандаль: кожная партыя, кожная асоба прапануе сябе як тавар. Пакупнік — падаткаплацельшчык, выбаршчык павінен ведаць, які ён атрымлівае тавар. Мы на фактах можам даказаць, што Нацыянальны сход — гэта дрэнны тавар, гэта падман нашых людзей. Было б ужо танней, каб такога парламента ўвогуле не было, яго лепш распусціць.

***— Анатоль Уладзіміравіч, ці здолее апазіцыя паступіцца пэўнымі прынцыпамі пры станоўчым вырашэнні галоўнага пытання — пытання правядзення свабодных выбараў?***



Анатоль Лябедзька 18 жніўня на пікеце, які праводзяць дэмакратычныя сілы краіны

Фота Ул.ШЛАПАКА

— Палітычная апазіцыя сфармулявала свае прынцыпы ў платформе, надрукаванай у СМІ. Напрыклад, мы прапанавалі змешаную сістэму выбараў па схеме 50 х 50. Мы можам дабіцца падчас перамоваў, што суадносіны будуць 75 х 25. Дапусцім, Беларусь не мае патрэбы ў двухпалатным парламенце, тады магчымым кампрамісам можа стаць абранне якраз двухпалатнага парламента, але і ніжняя, і верхняя палаты павінны абірацца народам. Менавіта ён павінен дэлегаваць легітымнасць дэпутатам. У нас ёсць магчымасць для манеўру. Нашая платформа — гэта не апошняе слова, гэта дакумент для абмеркавання, і, натуральна, ён можа мяняцца. Але ёсць ніжэйшая планка, якую мы не можам пераступіць, бо, пераступіўшы, адыдзем ад прынцыпаў маральнасці, дэмакратычнасці.

***— Наколькі станоўча Вы можаце ацаніць ход падрыхтоўкі да перамоваў?***

— Нягледзячы на нязначныя хібы, самы галоўны станоўчы момант, пра што гаварыў падчас сустрэчы са мной і спадар Вік, упершыню яны бачаць кансалідаваную пазіцыю беларускай апазіцыі. Я таксама лічу, што гэта сапраўды так. Ёсць дробныя непаразуменні, але пакуль апазіцыя вытрымлівае кансалідаванасць.

***— Ці мае апазіцыя нейкія стасункі з афіцыйнай дэлегацыяй, якую ўлада выстаўляе на перамовах?***

— Пакуль што мы абменьваемся інфармацыяй праз пасрэдніка — місію АБСЕ. Але я хацеў бы адзначыць, што мы пакуль не атрымалі афіцыйнага дакумента, які сведчыў бы, што з боку выканаўчай улады зацверджаны склад дэлегацыі. Гэта толькі інфармацыя, распаўсюджаная СМІ. Таму першае, што нам хацелася б, гэта атрымаць дакумент аб прызначэнні канкрэтных людзей на перамовы. Пакуль гэтага няма, мы можам прымаць усю інфармацыю толькі да ведама.

***— Анатоль Уладзіміравіч, для каго найбольш выгадныя перамовы?***

— Калі перамоўны працэс будзе мець нейкія станоўчыя вынікі, то ён будзе выгадны, у першую чаргу, Беларусі. А ўсе мы ў той ці іншай ступені з'яўляемся або грамадзянамі Беларусі, або жывём побач з Беларуссю. Імітацыя ж перамоўнага працэсу можа прынесці пэўную карысць існуючаму рэжыму, але толькі да пэўнай мяжы — бясконца падманваць немагчыма. Таму і прапаноўваецца канцэпцыя, якая прадугледжвае вельмі жорсткія часавыя рамкі — да канца гэтага года пытанне павінна быць вырашанае. ■

## Шлях Чыгіру з-за кратаў перакрыты

**Рыгор БУЯН**

17 жніўня калегія Мінскага гарадскога суда адмовілася змяніць экс-прэм'еру Міхаілу Чыгіру меру стрымання.

Юлія Чыгір гаворыць, што кіраўніцтва гарадскога суда нават не палічыла за патрэбнае выслухаць яе довады. А галоўная прычына, па якой, на думку Ю.Чыгір, трэба было б вызваліць яе мужа з-за кратаў, у тым, што з 12 красавіка ніякіх следчых дзеянняў з удзелам экс-прэм'ера не вядзецца.

Жонка былога прэм'ера Юлія Чыгір сказала НАВІНАМ, што збіраецца абскардзіць згаданае рашэнне старшыні Мінгарсуда Міхаіла Ардзяка. На вызваленне Міхаіла Чыгіра жонка не спадзяецца — яна хоча прайсці ўсе судовыя інстанцыі, каб мець магчымасць звярнуцца за дапамогай у Міжнародны суд. У Беларусі яшчэ не было прэцэдэнта, каб суд некаму з абвінавачваемых змяніў меру стрымання — «рашэнне суда азначала б, што чалавек затрыманы незаконна». ■

## ГОЛАС ВУЛІЦЫ

**Прохожим на улицах Минска задавалось два вопроса:**
**— Кто сейчас в стране премьер-министр?**
**— Кого еще вы знаете из руководства Беларуси?**



**Александр, представитель силовых структур**

— Премьер – это Линг. Про заместителей не скажу. Зато знаю, что Лукашенко – президент, Сиваков – руководитель МВД, Божелко – генеральный прокурор, Шейман – секретарь Совета безопасности. Кто еще? «Силовики» все. Зеленкевич – министр здравоохранения.



**Елена, бухгалтер**

— Не знаю я. И, кроме Лукашенко, меня больше никто не интересует – потому что они все марионеточные.



**Елена**

— Линг Сергей. Заместителей не знаю. У нас всем руководит Лукашенко и этот, как его, помнила, но забыла... Он еще предвыборную кампанию Лукашенко финансировал. Я политикой не интересуюсь, больше думаю о личных проблемах – как жить, что есть.



**Вдадимир ДАЩИНСКИЙ, тренер по фристайлу**

— Кто премьер? Мясникович, что ли... Из руководства знаю, конечно, Лукашенко. Мэра города – Ермошина. Заметалина знаю – первый вице-премьер. Я знаю тех, с кем сам встречался. Вот теперешний министр спорта – Евгений Ворсин. На приемах их много, когда приглашают. Но, в основном, не помогают.

(*Чуть позже Владимир Дащинский не поленился вернуться, чтобы сообщить нам:* «премьер – это не Мясникович, а такой высокий, седой – только фамилию скажите... Ну конечно, Линг – мы еще в Раубичах разговаривали...»).



**Валерий МЕЛЬНИК, специалист по карнизам**

— Всех знаю. Ну, президент, Заметалин, Титенков, Коноплев, Мясникович, все.



**Лилия, госслужащая**

— Линг Сергей – отчества не помню. Про заместителей не помню. Мясникович был главой администрации. Из Нацбанка Ермакову знаю. (*от ред.: Ермакова в АСБ «Беларусбанк»*). Министров вспомню: Зеленкевич – здравоохранение, Сосновский – культура, Стражев – образование, Сазонов – предпринимательство, Некрашевич – архитектура... Или сняли его? На слуху очень мало людей — кризис.



**Людмила, безработная**

— Как его – Линг? Не помню. Лукашенко знаю. Если вспоминать – Мясникович там... В Нацбанке – этот, как его... сразу не вспомню. Богданкевича помню, а этого — нет. Российских политиков знаю лучше – потому что не смотрим БТ, а все больше российские каналы.

*Из 35 опрошенных сами смогли вспомнить фамилию белорусского премьер-министра только 9 человек. Про то, что страной руководит А.Лукашенко, вспомнили 19 опрошенных. Вице-премьеров не знает никто – единственный раз был упомянут Л.Козик.*

**Опрашивали**
**Ростислав ПЕРМЯКОВ и Владимир ШЛАПАК (фото)**

## МЕРКАВАННЕ КРАІНЫ

**Мы продолжаем публикацию результатов социологических исследований, которые проводит лаборатория «НОВАК» Андрея Вардамацкого. Опрос был проведен 8-13 июля. Репрезентативная выборка — 1.095 человек.**

## Как мы оцениваем состояние экономики страны и собственной семьи?







Сравнивая оценки жителей Беларуси и населения столицы, приходишь к выводу, что минчане более критично относятся к экономическому положению страны. «Плохо» и «очень плохо» оценивают экономику 55,8% белорусов и 67,2% жителей столицы. В июле прошлого года эти показатели равнялись 41,1% (Беларусь) и 50,1% (Минск).

В отрицательной оценке экономического положения собственных семей обе группы респондентов высказываются приблизительно одинаково — 52,6% (Беларусь) и 53,1% (Минск). Любопытно сравнить эти цифры с показателями аналогичного опроса июля прошлого года. Тогда отрицательно оценивали экономическое положение своих семей 39,3% жителей Беларуси и 35,4% минчан. ■

памяць XX стагоддзя 1917

# Шпіёнка і шпіён

Канстанцін СУРЫН

У нашай свядомасці 1917 год адзначаны дзвюма падзеямі — Лютаўскай рэвалюцыяй і бальшавіцкім пераваротам (Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя). Апошняя заўжды трактавалася як падзея, якая змяніла напрамак чалавечай гісторыі (адкрыла новую эру). Напрыканцы стагоддзя відавочна, што маштаб зменаў быў значна перабольшаны панегірыстамі. Да месца прыгадаць, што толькі мы называем дэмакратычную рэвалюцыю 1917 года Лютаўскай. Калі трымацца новага стылю, яна пачалася ў Міжнародны дзень жанчын і па-



вінна адзначацца 8 сакавіка, падобна таму як свята Кастрычніцкай рэвалюцыі адзначаецца па новым стылі 7 лістапада. Такім чынам, дэмакратычную перабудову ў Расіі распачалі жанчыны, якія 8 сакавіка 1917 года выйшлі на дэманстрацыю з патрабаваннем міру і хлеба.

Ход гісторыі змянілі чатыры гады сусветнай вайны. Зруйнавалася не толькі Расійская імперыя, ачоленая чалавекам сярэдніх здольнасцяў, які сам паставіў кропку ў радаводзе сваёй дынастыі і апынуўся разам з сям'ёй пад арыштам.

У гэты ж час у Францыі знаходзілася пад арыштам жанчына, імя якой сёння больш вядомае ў свеце, чым імя апошняга расійскага імператара. Арыштаваную звалі Мата Хары, і ў шырокай свядомасці яна сімвалізуе ўдалую жанчыну-разведчыцу. Усе шматлікія гераіні шпіёнскіх серыялаў бяруць пачатак з біяграфіі гэтай асобы. Мата Хары нарадзілася ў Галандыі ў 1876 годзе, яе сапраўднае імя — Маргарэта Гертруда Зэле. Паездка з мужам на Яву змяніла яе лёс. Тут Маргарэта захапілася мастацтвам інданезійскага танца. Менавіта з Явы яна прывезла ў Еўропу свой паэтычны псеўданім Мата хары (Вока ранку). Кар'еру знакамітай танцоўшчыцы Маргарэта пачала ў 29-гадовым узросце ў Парыжы пасля таго, як скасавала шлюб. Экзатычны стыль танцаў прынёс ёй шырокую вядомасць. Маргарэта займела багата паклоннікаў у вышэйшым свеце розных краінаў Еўропы. Пачатак сусветнай вайны, прыпыніўшы культурнае жыццё, адмоўна адбіўся на яе матэрыяльным становішчы. Даволі хутка яна засталася без сродкаў і ў гэтую цяжкую хвіліну жыцця атрымала аднолькавую прапанову ад французскай і германскай разведак. Мата Хары пагадзілася працаваць і на тых, і на тых. Жыццё двайнога шпіёна заўжды вісіць на валаску. Мата Хары не патрапіла ў лік выключэнняў. Недаверлівыя французы ўчынілі слежку за танцоўшчыцай і займелі доказы яе тайных кантактаў з нямецкім рэзідэнтам. Маргарэта Зэле была арыштаваная, і ваенны суд не ўлічыў ні ранейшай еўрапейскай славы танцоўшчыцы, ні таго, што яна жанчына. 15 кастрычніка 1917 года Мата Хары стала ля турэмнай сцяны у Венсэне, і расстрэльная каманда выканала прысуд. Ёй было 42 гады

1917 год вывеў на арбіту сусветнай вядомасці і палкоўніка Лоўрэнса. Ён стаў героем шматлікіх фільмаў на арабскія сюжэты. У нашай літаратуры Лоўрэнс трактаваўся як цынічны, жорсткі прафесійны разведчык. На справе было інакш. Захапленнем маладога Лоўрэнса былі археалогія і мовы. У 22 гады ён патрапіў у Егіпет, дзе з ягонага рамантызму і сяброўства з арабамі скарысталася англійская разведка. Томас Лоўрэнс меў немалыя пісьменніцкія здольнасці, што засведчыла яго кніга «Сем слупоў мудрасці» (выйшла пасмяротна ў 1936 годзе). Зорным часам Лоўрэнса была арганізацыя паўстання плямёнаў Хіджаса супраць турэцкага панавання. Лоўрэнс прыняў непасрэдны ўдзел у баявых дзеяннях у пустыні і цудам застаўся жывы. Выключна дзякуючы ягонай волі і настойлівасці паўстанне перамаг-



ло, і было ўтворанае каралеўства Хіджас са сталіцай Мека. Змены палітычнай сітуацыі прывялі да таго, што англічане не выканалі тых абяцанняў, якія даваў арабам ад імя ўрада Лоўрэнс. Гэта адбілася на яго далейшым жыцці. Ён адчуваў, што ягоны гонар растаптаны, і не мог знайсці паразумення ні з урадам, ні з разведкай, ні з самім сабой. Лоўрэнс шукаў для сябе рызыкоўнага занятку. Ужо маючы званне палкоўніка, ён пад чужым іменем пайшоў радавым у авіяцыйны атрад, каб вывучыцца на лётчыка. У 1935 годзе Лоўрэнс разбіўся на сваім матацыкле пры таямнічых абставінах. Існуе версія, што смерць Лоўрэнса арганізавала брытанская разведка, занепакоеная пісьменніцкімі поспехамі палкоўніка, што пагражала раскрыццём пэўнай інфармацыі.

Напрыканцы стагоддзя імёны Мата Хары і Лоўрэнса выкарыстоўваюцца дзеля рамантызацыі разведслужбы. У рэальнасці і Мата Хары, і Лоўрэнс мелі больш высокія мары, здольнасці і былі схільныя да больш узнёслага духоўнага жыцця, чым шпіёнскае. Нікчэмныя мэты вайны зрабілі іх сваімі ахвярамі. ■

# Атрымалася як заўсёды...

Андрэй МЯТЛІЦКІ

**Навагрудак — першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага — страціў свой самы старажытны помнік культуры. Уладам не хапіла грошай, а прыватнаму прадпрымальніку-рэстаўратару — кампетэнцыі.**

У мінулым годзе Навагрудак урачыста святкаваў 200-тыя ўгодкі народзінаў Адама Міцкевіча. Аляксандр Лукашэнка выдзеліў аж 1 млн. долараў на гэтую справу. У вёсцы Завоссе адбудавалі сядзібу-фальварак, дзе 24 снежня 1798 нарадзіўся паэт. Каб не смяшыць гасцей з-за мяжы, замянілі нават помнік Леніну.

На жаль, арганізатарам святаў не хапіла розуму і ведаў, каб паклапаціцца аб сапраўдным мінулым. Да пабудаванай яшчэ ў XIII ст. абарончай вежы турыстаў з Польшчы баяліся весці нават мясцовыя края-



Млын, пабудаваны напрыканцы XVII стагоддзя

веды. Помнік архітэктуры і культуры, які вытрымаў аблогі татараў і крыжакоў, на сёння застаўся ў стане, у якім пакінулі яго «русские освободители», што ў XVII ст. падзялілі Рэч Паспалітую. Пры Расіі вежа была перабудаваная і стала ветраком. Чарговыя «освободители»-бальшавікі забыліся на помнік. Толькі ў палове 90-х вежа прыглялася прадпрымальніку і мецэнату Пятру Сільвановічу. Былы мантажнік-вышыннік хацеў зрабіць у вежы музей. Адбудаваць вятрак, зрабіць там цэнтр народнага мастацтва. Ураджэнец бліжэйшага Асташына, дзе пасля свайго вяртання з Сібіры праклаў дарогу, ачысціў сажалкі і падключыў электрычнасць, узяўся з імпэтам за новую справу.

Ды не выйшла. Падчас работ вежа раптам завалілася. Хто вінаваты — невядома. Маўчаць мясцовыя ўлады. Маўчаць чыноўнікі па ахове помнікаў архітэктуры. Пра вежу клапоціцца толькі Сільвановіч. Зараз шукае ізноў грошы. Гэтым разам на грунтоўную рэканструкцыю. У прынцыпе зразумела: нешта ж трэба зрабіць з кучамі цэглы, якія засталіся ў выніку недасведчанасці чыноўнікаў і некампетэнтных дзеянняў рэстаўратара-аматара. ■



Тое, што засталося ад млына пасля аматарскай рэстаўрацыі

## КАМЕНТАР навінаў

Звесткі пра даўніну вежы могуць быць надта перабольшаныя. У спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў, які складзены Дзяржаўным упраўленнем па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў міністэрства культуры РБ, навагрудскі разбураны млын датаваны XVII стагоддзем і менавіта ў гэтакай гаспадарчай якасці. Зразумела, што ні крыжакоў, ні наезды крымскіх татараў, ні князёў Міндоўга, Войшалка, Гедыміна гэты млын памятаць не мог. Хоць, зразумела, 300 гадоў існавання таксама не мала.

Больш важная праблема ў дадзеным выпадку — якім чынам помнікі архітэктуры і культуры трапляюць у рукі былых мантажнікаў-вышыннікаў, якія, набыўшы ва ўласнасць стары будынак, пачынаюць работы, для якіх не маюць патрэбнай адукацыі, вопыту і г. д. Будзе яшчэ горш, калі ўладальнік гэтай разбуранай каштоўнасці пачне саматужна адраджаць «стары млын». Рэдакцыя плануе асвятліць розныя бакі праблемы з нерухомай спадчынай у бліжэйшы час.

ТВОРЧАСЦЬ

# Повенчанная с объективом и... революцией

Татьяна НОВИКОВА

**В Национальном музее истории и культуры Беларуси 15 августа открылась выставка фотографии Тины Модотти «Новый взгляд. 1929».**

Она продлится до 2 сентября. Ее инициатор — посольство Мексики в Москве. До приезда в Минск эта экспозиция была развернута в Москве, в Новом Манеже.

Черно-белая фотография Тины Модотти была известна в советские времена как символ революционной Мексики. Она не сходила с газетных полос повстанческой газеты «Ель Мачете». Сегодня творчество Модотти привлекает любителей фотографии всего мира. Ее имя вошло в историю наряду с Родченко.

Тина Модотти, итальянка по происхождению, была очень яр-






«Элегантность и нищета». Мехико. 1927



«Кукурузный початок, гриф гитары и патронташ». Мексика. 1928

кой, интересной личностью. Ее романтическая внешность знакома нам по первым немым фильмам. Она была актрисой, моделью, фотографом, агентом Коминтерна и даже работником МОПРа. Модотти была пламенной революционеркой. Идеи заставили Тину оставить карьеру фотографа в Америке и уехать в Мексику. Затем партийная судьба привела ее в СССР. В 30-е годы она жила в Москве. За свою недолгую жизнь — сорок с небольшим лет — Тина успела оставить больший след в фотографии, чем в революции. Около восьмидесяти ее фотографий сегодня хорошо известны, в их числе — «Серп и молот», «Элегантность и нищета», «Женщина с флагом». ■

CINEMA

# Большой успех за маленькие деньги

Егор ИВАНОВ

Фильм ужасов, на съемку которого было затрачено всего несколько десятков тысяч долларов, принес огромную прибыль его продюсерам. По данным организации Exhibitor Relations, фильм «Проект Ведьма Блэр» занял второе место по кассовым сборам в США, получив за две недели проката 29,2 миллиона долларов. Малобюджетник (на его производство было затрачено от 40 до 100 тысяч долларов) уступил лишь новой романтической комедии, в которой снялись Ричард Гир и Джулия Робертс (35 миллионов долларов — доходы от проката).

Фильм, в котором участвовали совершенно неизвестные актеры, был снят двумя молодыми американскими кинематографистами.

Снимали практически без сценария. В нем рассказывается о трех операторах, в октябре 1994 года поехавших на съемки знаменитой ведьмы по имени Блэр в лес штата Мэрилэнд на северо-востоке США. Операторы исчезли, но через три года были найдены пленки с их репортажем, из которых и составлен фильм.

Перед началом съемок троих актеров научили обращаться с видеокамерой и отправили на восемь дней в лес, чтобы они самостоятельно сняли этот фильм. Им сообщили только сюжетную канву, остальное было предоставлено на усмотрение актеров-операторов. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 587 Нумар падпісаны ў друк 19/08/99 (15:00) Наклад — 20.850